


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 жніўня 2002 года
№ 31 (380)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Пажар у музеі Багдановіча

МАЛАДЗЕЧНА. 25 ліпеня згарэў музей Багдановіча ў Ракуцёўшчыне. Сігнал аб пажары паступіў у пажарную часць амаль у адзінаццаць гадзін ночы.

Тры дапаможныя будынкі знаходзіліся пад адным дахам. Ён знішчаны поўнасцю. Амаль поўнасцю згарэлі і сцены. Мяркуецца, што гэта быў падпал.

**Ірына РАБУШКА.**

### На Нарачы гіне рыба

МЯДЗЕЛ. Ад нядзелі ў Нарачы гіне рыба.

Спецыялісты лічаць, што гэта адбылося з-за спякоты – у вадзе рэзка знізілася ўтрыманне кіслароду. Найбольш пацярпела рапушка – нарачанскі сіг – адна з халоднадюбівых рыб.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Зачынілі два магазіны

ВАЛОЖЫН. Адразу на два фірменныя магазіны памянела ў райцэнтры.

Спыніў сваю работу магазін "Пеўнік" Івянецкага племптушказавода. Цяпер яго прадалі раённаму вузлу паштовай сувязі. А магазін "Салодка" Івянецкай кандытарскай фабрыкі СП "Івкан ААТ" не вытрымаў арэнднай платы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Прынялі гідраэлектрастанцыю

ВІЛЕЙКА. 30 ліпеня дзяржкамісія прыняла ў эксплуатацыю другую чаргу гідраэлектрастанцыі (ГЭС), што на Вілейскім вадасховішчы.

З яе пускам поўнасцю завершылася будоўля Вілейскай ГЭС, якая пачалася ў 1998 годзе. Цяпер ГЭС штодзённа выпрацоўвае 640 кілават-гадзін таннай электраэнергіі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Памёр у час жніва

ВАЛОЖЫН. 26 ліпеня памёр трактарыст з Мінска, 41-гадовы Анатоль Зіневіч.

Ён працаваў у калгасе "Бальшавік". Падчас работ на збожжатаку Анатолю стала дрэнна. Выклікалі "хуткую дапамогу". Ад вострай сардэчнай недастатковасці трактарыст памёр у Ракаўскай бальніцы.

**Ірына РАБУШКА.**

### Гарыць торф

СМАРГОНЬ. Амаль тыдзень пад Смаргонню ў раёне вёсак Сялец і Куляшы гарыць тарфянікі.

Агонь ахапіў больш за 6 гектараў плошчы. Усе пажарныя сілы кінуты на барацьбу са стыхіяй. Пажар такога маштабу ў раёне зафіксаваны ўпершыню.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

### Сустрэча з амерыканскім паслом

АСТРАВЕЦ. На мінулым тыдні ў амбасадзе ЗША пасол Майкл Козак сустракаўся з прадстаўнікамі беларускіх палітычных партый.

Сярод запрошных быў і старшыня Астравецкага раённага клуба выбаршчыкаў **Іван Крук**. Ён расказваў пра палітычную, эканамічную сітуацыю на Астравеччыне. Размова доўжылася амаль гадзіну. На заканчэнне Іван Крук запрасіў пасла наведаць Астравеччыну.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Адмена электрацягнікоў



6 жніўня адмяняецца электрычка Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 13-52 і прыбыццём у Маладзечна ў 14-24.

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 3 жніўня**

**Мінск** 
14°С (уначы)
28°С (удзень)

**Вільня** 
15°С (уначы)
27°С (удзень)

**Нядзеля, 4 жніўня**

**Мінск** 
16°С (уначы)
29°С (удзень)

**Вільня** 
16°С (уначы)
27°С (удзень)

# Рабочыя ЗМК бастуюць

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 ліпеня каля 100 рабочых завода металаканструкцый адмовіліся працаваць. На гэтую акцыю іх падштурхнулі затрымкі з выплатай заробтнай платы.**

Цэлы ліпень на заводзе не плацілі зарплату за чэрвень. І ў аўторак рабочыя не вытрымалі. Яшчэ ад раніцы яны працавалі. А калі стала відавочна, што зарплату яны не ўбачаць і ў гэты дзень, то пасля абеду каля 100 чалавек на першай вытворчасці не пайшлі на свае рабочыя месцы.

Для вырашэння канфлікту да рабочых прыйшоў намеснік дырэктара **Анатоль Міронччык**. Як сказалі рабочыя, намеснік дырэктара паабяцаў, што грошы будуць заўтра. Але ўсё ж "адмаўнікі" на рабочыя месцы не пайшлі.

Не працавалі яны і ад раніцы ў сераду. Работа ўзнавілася толькі пасля таго, як пачалі выплачваць зарплату.

Цікава, што і рабочыя, з якімі я размаўляў, і Анатоль Міронччык, спасылаліся на тое, што адміністрацыя не выконвае пункты калектыўнага дагавора, па якім зарплату рабочыя павінныя атрымаць да 16 числа наступнага месяца. Але аказалася, што ніякага калектыўнага дагавора на заводзе няма! Мінулы перастаў дзейнічаць 22 красавіка гэтага года, а новага адміністрацыя і прафсаюз не заключылі.

### Крыху гісторыі

Аналагічная акцыя пратэсту здарылася 7 сакавіка гэтага года. Тады рабочыя пакінулі свае месцы на некалькі гадзін. Некаторым работнікам завода за люты зрэзалі зарплату прыкладна ў 1,5 раза.

22 снежня мінулага года выйшаў загад №518 "Аб прагнозных паказчыках на 2002 год і на студзень месяц". У ім устанаўліваліся асноўныя паказчыкі развіцця завода на 2002 год. І прызначаліся адказныя з ліку адміністрацыі завода. У пункце 6 зазначана, што галоўны інжынер і намеснікі дырэктара "нясуць персанальную адказнасць за невыкананне зацверджаных планавых паказчыкаў".

Завод працягваў зніжаць свае аб'ёмы. І ў лютым асноўныя паказчыкі выканалі на 30-40%. Выйшаў загад №74 ад 5 сакавіка 2002г. "Аб аплаце працы работнікаў завода за люты 2002 года". Згодна з ім, работнікаў завода пазбавілі ўсіх прэмій і надбавак. Яшчэ частцы работнікаў зарплату налічылі згодна з рэспубліканскай тарыфнай сеткай. Па Беларусі стаўка рабочага першага разраду была 19500 рублёў, а на заводзе – 31300. Гэта ў 1,6 раза больш.

У выніку пацярпелі работнікі, што не працавалі на здзельшчыне. Гэта іх не магло задаволіць, і яны адмовіліся працаваць. Канфлікт вырашылі тым, што загадам №99 ад 19.03.2002г. работнікам вярнулі завадскія тарыфныя стаўкі. Розніцу ў акладах за люты так і не выплацілі. Нягледзячы на пункт 3.6 дзеючага на той час калектыўнага дагавора, дзе гаварылася, што "наймальнік абавязаны абвесціць сваіх работнікаў аб змяненні дзеючых умоў аплаты працы не пазней, чым за 1 месяц". Атрымалася, што рабочыя не ведалі, за што працавалі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Фота IREX/ProMedia.

**Нявыплата зарплаты - праблема агульнанацыянальная. Рабочыя мінскіх прадпрыемстваў пратэстуюць супраць збяднення іх сем'яў.**

### Прадпрымальнікі працавалі

**МАЛАДЗЕЧНА. 31 чэрвеня у Беларусі прайшла аднадзённая забастоўка прадпрымальнікаў-гандляроў, якую арганізатары называюць агульнанацыянальнай.**

Прадпрымальнікі Мінска, абласных цэнтраў, а таксама Баранавіч, Бабруйска, Оршы і Ваўкавыска гэтай акцыяй папярэдзілі ўлады аб недапушчальнасці пагаршэння ўмоў работы.

Прадпрымальнікі Маладзечна і рэгіёна ніяк не адрэагавалі на заклікі прафсаюзаў. Напярэдадні ў Маладзечне некалькі падлеткаў прабеглі па калгасным рынку, раскідваючы лістоўкі.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

# "Школьнае" надзвычайнае становішча

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 дзён засталося да пачатку заняткаў у новай школе ў шостым мікраараёне. Будаўніцтва школы па нарматыўных дакументах павінна заняць шаснаццаць месяцаў, а папраўдняму ўзяліся за школу толькі з красавіка.**

Яе узводзяць 1106 чалавек. Працуюць у тры змены. Харчуюцца рабочыя ў сталовых ПТВ №№21, 135. Туды іх возіць гарадскі аўтобус. Заўсёды дзяжурыць на будоўлі медсястра. У гэтыя спякотныя дні да яе нават чэргі выстройваюцца. Часцей за ўсё ціск падымаецца. Асабліва пакутуюць жанчыны.

Рабочыя кажуць, што ім ужо псіхіятр патрэбны. На іх думку, людзей на будоўлі магло быць і менш, каб быў час.

Начальнік участка ПМК-212 **Вацлаў Асяненка** дадаў:

— Будоўлю можна назваць надзвычайным становішчам. Але нягледзячы на складаныя ўмовы, на гэтым тыдні дах школы завершаны на 100 працэнтаў. Пракладзеныя вонкавыя камунікацыі. Наперадзе ўнутраная аддзелка.

Напрыканцы ён адзначыў, што ніякага браку ў рабоце і быць не можа.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**На будоўлі маладзечанскай СШ №14. Будаўнікі працуюць і ў самую спёку. 29 ліпеня.**

**Школа, што будуецца ў шостым мікраараёне Маладзечна, можа стаць адной з лепшых у Беларусі. Адметнасць школы - спартыўны комплекс з басейнам. Удзел у будаўніцтве школы, сказаў рэдакцыі "РГ" намеснік старшыні гарвыканкома Яфім Ідэльчык, прымае ўся краіна. Але сродкаў на абсталяванне яе не выдзелена. Менавіта таму гарадскія ўлады звярнуліся да гаспадарчых структур горада аб дапамозе — часу да 1 верасня засталося ўсяго нічога.**

**Каб абсталяваць школу мэбляй, навучальнымі прыладамі, проста купіць посуд трэба каля 200 мільёнаў рублёў. Больш за палову іх ужо сабрана.**

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ТЭАТР

# «Няхай сярод лета пойдзе снег»

**МАЛАДЗЕЧНА. Шэсць роляў запар у спектаклі "Спячая прыгажуня" сыграла актрыса Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" Таццяна Чаеўская.**

Яна занята практычна ва ўсім рэпертуары тэатра – пятнаццаці спектаклях.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

Актрыса Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» Таццяна Чаеўская.

## Запрашэнне

— Ало, Таццяну Пятроўну можна?

— Слухаю.

— Заўтра ў тэатры праслухоўванне. Прыходзьце.

(У думках праносіцца: Якое? Чаго? Хутка прыпомніла, што два месяцы таму пакінула ў "Батлейцы" заяву, каб уладкавацца туды на працу. Навошта яно мне. Я працую ўжо ў школе).

— Не, я не магу. Няма часу.

— Мы можам праслухаць Вас у любы час.

... Пад нагамі шапацелі жоўтыя лісты. Кляновая алея, што вядзе ў "Батлейку", здавалася варотамі ў новае незведанае жыццё. Выпускніцы Мінскага вучылішча мастацтваў было тады 20 гадоў. Шаптала сама сабе: "Раптам не вытрымаю. Не змагу на людзях".

## Рамонкі для актрысы

На наступны дзень Таццяна Чаеўская працавала "на дапамозе" ў спектаклі "Незвычайныя спаборніцтвы" – насіла рамонкі.

— Дапамога? Рамонкі?!

—(Смяецца). Так. Між іншым, ад чалавека, які працуе "на дапамозе" залежыць 80% поспеху спектакля. Гэта тое, што ёсць мяса, але няма мясарубкі – ніколі не атрымаецца фарш і не з'ясі катлет.

Цяпер за Таццянінымі плячыма шэсць тэатральных сезонаў. Яна вучыцца ў Беларускай Акадэміі мастацтваў.

Актрыса верыць, што будучыня за тэатрам лялек, бо ў драматычным тэатры іграюць дарослае жыццё і зрэдку – казкі. А тэатр лялек – гэта дзяцінства. Верыць яна і ў родную "Батлейку", і ў тое, што тут завершыцца рамонт.

## Тэатр лялек

Самай вялікай перамогай лічыць раскрыццё новых сваіх магчымасцей. Да прыкладу, спрабавала сябе ў якасці рэжысёра ў "Навагоднім прадстаўленні". Марыць зрабіць лялечны спектакль без слоў, сыграць монаспектакль па творах Марыны Цвятаевай.

Кажа, што кожны акцёр-лялечнік павінен мець пасведчанне на права ваджэння лялек.

Ёсць у Таццяны Чаеўскай і нелюбімая роля – гэта Верабей са спектакля "Заяц варыць піва". З-за таго, што ён гультай і пустамеля. Да таго ж і піва акторка не любіць.

Але трэба ўмець уваходзіць у любы вобраз. Тады робіць так: бегае, скача, а таксама гучна крычыць і спявае. Размаўляе з лялькамі, якіх ёй шмат дораць. Імёны ім дала. Слухаюць разам музыку ад Бетховена да Земфіры. Вельмі хоча, каб у сутках было 48 гадзін: 24 з іх – для працы, па 7 – для сну, сустрэч з сябрамі і вывучэння філасофіі, 3 гадзіны патрэбны для таго, кабназірань за начным небам. На гэты ж момант самае вялікае жаданне – няхай бы снег сярод лета пайшоў. А наогул, працаваць у "свaім" тэатры, дзе я – яго, а ён – мой.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЮБІЛЕІ

# Адаму Мальдзісу – 70

**Нашаму земляку прафесару Адаму Мальдзісу 7 жніўня спаўняецца 70 год.**

Нарадзіўся Адам Іосіфавіч у вёсцы Расолы на Астравеччыне. Вучыўся ў Гудагайскай сямігодцы, Астравецкай сярэдняй школе. Пасля заканчэння ў 1956 годзе аддзялення журналістыкі філфака БДУ пачынаў сваю працоўную біяграфію у радашковіцкай раённай газеце, аб чым ён цёпла згадвае ва ўспамінах.

З 1962 года Адам Мальдзіс сур'ёзна займаецца навуковай работай. Ён становіцца навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Вырастае ў вядучага спецыяліста ў галіне памежных сувязяў беларускай, літоўскай і польскай культур. Яго імя прызнанае як адно з самых аўтарытэтных у беларусістыцы. З ініцыятывы Адама Мальдзіса ўзнік Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны, які наш зямляк і ўзначальваў доўгі час.



Фота IREX/ProMedia.

**Адам Мальдзіс святкуе ў гэтыя дні свой юбілей.**

Дзякуючы намаганням Мальдзіса Беларусі вернутыя імёны яе слаўных сыноў, сярод якіх дыпламат і стваральнік першага японска-рускага слоўніка ўраджэнец Астравеччыны Язэп Гашкевіч.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ СЕМІНАРЫ

## У Камарове цікавіліся турызмам

**МЯДЗЕЛ. У выхадныя ў вёсцы Камарова адбыўся семінар, прысвечаны экалагічнаму турызму.**

Правялі яго Еўрапейскі гуманітарны універсітэт з Мінска і мясцовае аб'яднанне «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю».

Прыехалі прадстаўнікі экалагічных арганізацый з усёй Беларусі, навукоўцы. Месца для правядзення выбрана не выпадкова: побач з Камаровам знаходзяцца вядомыя «Блакітныя азёры», а самой вёсцы даўно вядуцца работы па ўзнаўленню графскай сядзібы і парку пры ёй.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВІРТУАЛЬНЫЯ НАВІНЫ

# Камп'ютэрныя клубы ўпарадкавалі

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканкам сваімі распараджэннямі ўпарадкаваў дзейнасць камп'ютэрных клубаў. Абсалютная большасць з іх з'явілася ў горадзе за апошні год.**

25 мая гэтага года вучні 8 і 9 класа адной з гарадскіх школ забілі пажылога чалавека з мэтай завалодаць яго грашыма. Тады загаварылі аб тым, што адной з прычын забойства магла стаць жорсткасць, з якой сутыкаюцца падлеткі падчас гульняў у камп'ютэрных клубах. Бо некаторыя камп'ютэрныя гульні ўтрымліваюць элементы гвалту і жорсткасці, што ўздзейнічае не лепшым чынам на неакрэплую дзіцячую псіхіку.

Гарвыканкам стварыў рабочую групу па кантролю за дзейнасцю камп'ютэрных клубаў, якая 11 ліпеня зацвердзіла спіс з 21 гульні, што аказваюць негатыўнае ўздзеянне на псіхіку дзяцей і падлеткаў. Дзве з іх —"Кармагедон" і "Кабета-змяя" — забаранілі выкарыстоўваць увогуле. Да астатніх дзевятнаццаці дзецям і падлеткам пастанавілі абмежаваць доступ.

23 ліпеня гарвыканкам зацвердзіў "Прыкладнае палажэнне аб камп'ютэрным клубе горада Маладзечна". У штат клуба цяпер рэкамендуецца ўвесці педагога. Штомесяц для работнікаў клубаў гарадскі аддзел адукацыі будзе праводзіць семінары па рабоце з дзецьмі і падлеткамі. Таксама па даведках з замацаваных школ клубы павінныя даваць бясплатны час для работы на камп'ютэрах дзецям-сіротам і дзецям з малазабяспечаных сямей. Тым самым гарвыканкам імкнецца, каб у камп'ютэрныя клубы дзеці прыходзілі не толькі адпачыць, але і павучыцца.

За клубамі замацавалі і выхаваўчую работу. У позні час дзецям забараняецца туды ўваходзіць. У мэтах прафілактыкі правапарушэнняў клубы абавязалі весці ўлік наведванняў іх "цяжкімі" падлеткамі.

У першай палове жніўня гарадская камісія праверыць усе камп'ютэрныя клубы і паглядзіць, ці адпавядаюць яны патрабаванням. Першы намеснік старшыні гарвыканкома Яфім Ідэльчык сказаў, што ў гарвыканкома няма мэты закрыць той ці іншы клуб, але ўсе павінныя захоўваць адныя нормы. А ўладальнікаў клубаў ён папрасіў падрыхтавацца да праверкі.

Самі ўладальнікі ў прыватнай размове пасля нарады ў гарвыканкоме гаварылі, што яны згодныя з тым, што трэба выконваць заканадаўства. Але яны не разумеюць, чаму клубы зрабілі вінаватымі ў распаўсюджванні маладзёжнай злачыннасці. Міліцыя не прадаставіла ніводнага факта, што падлеткі здзейснілі злачынства адразу пасля наведвання камп'ютэрнага клуба.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

## Дом культуры стаў Палацам

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак рашэннем гарвыканкома гарадскому Дому культуры надалі статус Палаца культуры.**

Тым жа рашэннем дырэктара раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культпрасветработы **Святлану Грыцкевіч** прызначылі дырэктарам Маладзечанскага Палаца культуры.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ СУСТРЭЧЫ

## Летнік лекараў

**МЯДЗЕЛ. Дванаццаты раз на Мядзельшчыне сабраліся прыхільнікі нетрадыцыйных метадаў лячэння.**

Сярод іх і лекары (біяэнергетыкі, псіхолагі, мануальныя тэрапеўты і іншыя), і тыя, хто мае цікавасць да гэтага. Сёлета яны разбілі летнік каля возера Мядзел паміж вёскамі Брылі і Брэскія.

Лекары ўжо тут з сярэдзіны ліпеня. Цяпер колькасць удзельнікаў меншая, а так было каля ста чалавек. Прыехалі з Алтая, Прыбалтыкі, Казахстана, Германіі. Як звычайна, праводзіліся заняткі, лекцыі. Змайстравалі нават своеасаблівы храм лекарства.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СПАДЧЫНА

# Музей трывогі нашай

**МАЛАДЗЕЧНА. Неаднойчы даводзілася чуць: ці не самае спакойнае жыццё у музейных работнікаў – наладжвай сабе выстаўкі, збірай цікавыя экспанаты, здзьмухвай пыл з рарытэтаў. Ды яшчэ грошы за гэта атрымлівай...**



Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

**Мінулае і сучаснасць. Яны ўдала спалучаюцца менавіта ў музеі.**

Пра грошы ведаю мала – іх у чужой кішэні не лічу. Хаця інфармацыя даходзіла, што сярод работнікаў культуры музейныя па ўзроўню зарплаты знаходзяцца на перадапошнім месцы, ніжэй толькі супрацоўнікі бібліятэк. І выстаўкі сёння ладзіць складана – зноў жа з-за беднасці.

— Няпроста захоўваць і экспанаты, — прызнаецца галоўны захавальнік фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Наталля Палтавец**. – А ў нас налічваецца каля 45 тысяч адзінак толькі асноўнага фонду, сярод якіх немала каштоўных і цікавых у гістарычным і культурным плане. Яны сабраны амаль за пяцьдзесят гадоў нашага існавання на Маладзечаншчыне і ў бліжэйшых раёнах вобласці. І амаль усе захоўваюцца ва ўмовах, якія не адпавядаюць музейным стандартам. Але ў самым незайздросным стане знаходзіцца калекцыя прыродазнаўчых і навуковых помнікаў, у ліку якіх вельмі цікавыя чучалы звяроў і птушак, выробленыя больш за сорак год таму. А між іх ёсць тыя, што занесены ў Чырвоную кнігу і знаходзяцца на мяжы знікнення. Нашы экспанаты гінуць разам з жывымі іх прататыпамі, бо тэмпературна-вільготнасны рэжым у сховішчы далёкі ад патрэбнага. У небяспецы помнікі археалогіі, калекцыя жывапісу. І наогул колькасць экспанатаў усё павялічваецца, а музей "здымае" вугал у гарадской бібліятэцы. З вялікімі намаганнямі ўдалося атрымаць памяшканні для аб'ёмных экспанатаў – драўляных і этнаграфічных помнікаў, але зноў жа захоўваюцца яны ў прыстасаваным будынку па вуліцы Маладзёжнай. І ўмовы не тыя, і дабірацца далёка.

Атрымліваецца, што многае музей (а разам з ім і ўсе мы) можа безваротна згубіць.

Пацікавіўся ў Наталлі Іванаўны, наколькі выправілася б становішча пасля даваядзення да лагічнага заканчэння рэканструкцыі будынка музея па вуліцы Партызанскай. Аказалася, што гэты "зубны боль" супрацоўнікаў музея турбуе амаль шаснаццаць год. Першапачаткова ўжо новыя плошчы рыхтаваліся для экспазіцыі і работы навуковай часткі. Месца ж для сховішча і тут не прадугледжана. Адно выйсце: прыстасаваць пад яго сённяшнія кабінеты і памяшканні. Але зноў жа пасля пераезду ў старое новае памяшканне. Ці адбудзецца гэта калі-небудзь? — вось у чым пытанне.

**Віталь АЛЯКСАНДРАЎ.**

■ ЭКАНОМІКА

## Прамысловасць адстае

**МАЛАДЗЕЧНА. Чвэрць гарадскіх прадпрыемстваў па выніках паўгоддзя знізіла аб'ёмы вырабу прамысловай прадукцыі ў параўнанні з леташнім паказчыкам.**

З сямі асноўных паказчыкаў эканамічнага развіцця горада выкананыя два: выраб спажывецкіх тавараў і рост таваразвароту. А прырост выпуску прамысловых тавараў за паўгода складае 5,2% замест патрабуемых 12,5%.

За нездавальняючыя вынікі работы гарвыканком аб"явіў вымовы чатырom кіраўнікам. А кіраўнікі фабрыкі музычных інструментаў і "Электрамодуля" атрымалі вымовы за парушэнне тэрмінаў выплаты зарплаты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЫНАК

## Жывёламі гандлююць з машын

**МАЛАДЗЕЧНА. "Птушыны" рынак па вуліцы Лібава-Роменскай працуе ўжо трэці тыдзень. Гандлююць там у асноўным курамі і свіннямі.**

Яшчэ летась у кіраўнікоў калгаснага рынку была мэта перанесці гандаль свойскімі жывёламі на новае месца. Выбралі тэрыторыю па вуліцы Лібава-Роменскай. Пакуль на новым рынку месцаў пад гандаль няма. Прадаюць жывёл з машын.

Дырэктар калгаснага рынку **Аляксей Увараў** сказаў, што не хапае сродкаў для добраўпарадкавання тэрыторыі "птушынага" рынку. У бліжэйшыя два месяцы неабходныя работы плануюць выканаць.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Маладзечна, ліпень. На рынку па вуліцы Лібава-Роменскай гандлявалі курамі з чатырох машын. Большасць пакупнікоў і прадаўцоў назіраецца ў нядзелю.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 25 ліпеня | 1 жніўня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1822,00 руб. | 1830,00 руб. |
| Еўра | 1800,14 руб. | 1792,12 руб. |
| Злоты | 442,93 руб. | 438,90 руб. |
| Літ | 521,69 руб. | 518,93 руб. |
| Расійскі рубель | 57,83 руб. | 58,17 руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1820-1850 руб. | 1820-1860 руб. |

### Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) | |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11900 | 10900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4500 | 4800 |
| Селядзец, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 700 |
| Грэчка, 1 кг | 510 | 550 |
| Цукар, 1 кг | 775 | 775 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 880 | 880 |
| Алей, 1 л | 1950 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 380 | 400 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1900 | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 600 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 500 | 480 |
| Лімоны, 1 кг | 1900 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1550 | 1600 |
| Агуркі, 1 кг | 300 | 600 |
| Памідоры, 1 кг | 1000 | 700 |
| Кавуны, 1 кг | 450 | 450 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 750 |
| Дыня, 1 кг | 1900 | 1500 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 600 | 600 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 2400 |
| Масла, 1 кг | 3800 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1400 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1300 |
| Бульба, 1 вядро | 4000 | 3000 |
| Чарніцы, 5-літровае вядро | 5000 | 4500 |
| Чорныя парэчкі, 5-літр. вядро | 4000 | 5000 |
| Чырвоныя парэчкі, 5-літр. вядро | 3500 | 2000 |
| Маліны, 5-літр. вядро | 8000 | 7500 |
| Ажыны, 5-л. вядро | | 8000 |
| Алыча, 5-л. вядро | | 2000 |
| Брусніцы, 5-л. вядро | | 6000 |

■ ШКОЛА

## Скарачэнні непазбежныя

**Закончыўся чарговы навучальны год. Многім настаўнікам, асабліва пенсіённага ўзросту, восенню прыйдзецца здаць экзамен. На трываласць. Ці пяройдуць настаўнікі ў "наступны клас"?**

Дырэктар СШ №7 г. Маладзечна **Вольга Маляр'эвіч**:

— Я б ад сваіх пенсіянераў ні за што не адмовілася. Гэта тыя людзі, якія забяспечваюць вучэбна-выхаваўчы працэс. Разлічваю, што ўдасца іх прытрымаць. Лічу, што па гораду невялікі працэнт настаўнікаў-пенсіянераў. Напрыклад, у нас іх 5-6 чалавек.

У новым навучальным годзе чакаецца пераход на пяцідзённы навучальны і шасцідзённы рабочы тыдзень. Гэта звязана з новымі вучэбнымі планамі, распрацаванымі міністэрствам адукацыі Беларусі.

Усё робіцца дзеля таго, каб разгрузіць школьнікаў. Таму скарачаецца тыднёвая нагрузка на іх. Паколькі скарачаецца нагрузка на вучня, — гэта цягне за сабой скарачэнне тыднёвай нагрузкі настаўніка. Такім чынам, ланцужок выходзіць на пенсіянераў.

У Валожынскім раёне ўжо было вялікае скарачэнне настаўнікаў. Зараз іх засталося 72 чалавекі. У пенсіянераў скончыўся кантракт, і яго больш не прадоўжылі. Скарачэнні тут яшчэ шмат дзе пройдуць. Памяншаецца колькасць дзяцей і адпаведна класаў-камплектаў. Патрэбнасць у настаўніках будзе меншая, чым раней. Але арганізатар аддзела кадраў **Святлана Садоўская** гаворыць, што пераход на пяцідзёнку і скарачэнні пенсіянераў паміж сабой не звязаны. І наогул, у раёне па-рознаму разлічваюць на маладых спецыялістаў.

У Смаргонскім раёне скарачэнне закране настаўнікаў пачатковых класаў пенсіённага ўзросту. Гэта тлумачыцца зніжэннем колькасці вучняў. Напрыклад, у сярэдняй школе №5 летась набралі 13 класаў. А цяпер толькі 7.

З пачатку навучальнага года школы рэгіёна зноў папоўняцца маладымі настаўнікамі. Ці змогуць яны паўнацэнна працаваць.

Палова маладых спецыялістаў, якія запрашаюць аддзелы адукацыі, так і не даязджаюць да свайго працоўнага месца. Бо не хочуць пакідаць буйныя гарады. Ці працаваць не па месцы жыхарства.

У табліцы паказана, колькі маладых спецыялістаў было запрошана ў школы рэгіёна ў мінулым годзе, колькі засталося працаваць і колькі запрошана на новы навучальны год.

### Маладыя настаўнікі ў рэгіёне

| | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|
| Вілейскі раён | 69 | 26 | 55 |
| Смаргонскі раён | 51 | 39 | 59 |
| Астравецкі раён | 22 | 14 | 23 |
| Мядзелскі раён | 25 | 20 | 25 |
| Ашмянскі раён | 70 | 32 | 60 |
| Маладзечна | 18 | 30 | 20 |
| Валожынскі раён | 42 | 31 | 52 |
| Маладзечанскі раён | 30 | 33 | 35 |

**Заўвагі.** 1. Колькасць запрошаных маладых спецыялістаў у мінулым 2001-2002 навучальным годзе. 2.Колькасць маладых спецыялістаў у мінулым 2001-2002 навучальным годзе, якія прыехалі на месца працы. 3. Колькасць запрошанных маладых спецыялістаў на 2002-2003 навучальны год.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ЛЕТА

## Удалы для турызму ліпень

**МЯДЗЕЛ. Звычайна ў ліпені не вельмі шмат адпачываючых на Нарачы жадаюць адправіцца на экскурсіі: спякотна, лепш каля возера паляжаць.**

А сёлетні ліпень удалы для Нарачанскага бюро падарожжаў і экскурсій: абслугоўваюць да шасцісот турыстаў штотыдзень. Шмат і замежнікаў цікавяцца гісторыяй і прыродай раёна. Гэта і немецкія дзеці, што адпачываюць ў «Зубраняці», і ўдзельнікі хрысціянскага летніка ля Нарачы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ГАНДАЛЬ

## Семкі – справа сур'ёзная

**СМАРГОНЬ. З 1 жніўня грамадзянам, якія гандлююць семкамі, трэба зарэгістравацца ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў.**

Тыя, хто вырашыць працягваць гандляваць "чорным" таварам, у месяц павінныя будуць плаціць падатак у 25 еўра – каля 45 тысяч рублёў.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

## Растуць чэргі ля абменных пунктаў

**Падзеі, якія адбыліся ў першай палове лета на валютным рынку, аказаліся даволі цікавымі.**

Курс долара пасля некатарай спячкі зараз быццам бы сарваўся з ланцуга і спяшаецца навярстаць упушчанае – расце на 2-3% у месяц, што складае 40-50 рублёў прыросту. Але не гэта галоўная навіна, што курс расце – долар расце ўсюды, акрамя Еўропы. І калі ён і не расце, то, наадварот, гэта павінна стаць прадметам аналізу. У сённяшняй сітуацыі насцярожвае іншае – курс расце імкліва, дысбаланс паміж попытам і прапанаваннем валюты таксама павялічваецца. Нацыянальны банк вось ужо другі год б'е трывогу, што насельніцтва больш купляе наяўнай замежнай валюты, чым здае яе ў банкаўскія абменныя пункты.

Зразумела, што затарваюцца валютай камерсанты і чаўнакі. Нават пенсіянеры сваю маленькую пенсію імкнуцца хуценька сканверсаваць і зберагчы менавіта ў "баксах", а не ва ўкладах і дэпазітах. Патэтаму зноў чэргі каля абменнікаў, а курс падскочыў да ўзроўню ў 1860 рублёў за долар.

Попыт насельніцтва на валюту склаўся не ад высокіх даходаў, а ад страху зберагчы тое, што ёсць. Як Нацбанк ні спрабаваў пераламаць тэндэнцыю – безвынікова. Нават калі стаўкі былі на ўзроўні 150% гадавых, валюты ўсё роўна прадавалася фізічным асобам больш, чым у іх купляласся. Ды і саму валюту больш браць няма дзе – раней банкі прадавалі валюту, купленую на біржы і ў прадпрыемстваў па безнаяўнаму разліку. Аднак пры цяперашнім абвальным попыце яе там ужо таксама няма.

Ціск на валютны рынак аказвае і негатыўная тэндэнцыя на рынку ўкладаў. Пад цяперашнія 40-45% гадавых рабіць уклады ў рублях мала хто захоча: пры сярэднемесячным росце курсу на 50-60 рублёў даход зводзіцца практычна да нуля. Тым больш, што рызыка рэзкага скачка курсу ўзрастае і верагоднасць выхаду курсу долара з прагнозных паказчыкаў на канец года ў 1950-1970 рублёў за долар вельмі высокая. Плюс галаўны боль за вяртанне свайго ўкладу з банка.

Гэта даўно зразумелі нашы грамадзяне і ўжо зноў спяшаюцца ў банкі, але ўжо забіраюць уклады, бо баяцца росту курсу і магчымых праблем з канверсаваннем рублёвых зберажэнняў у СКВ. Усё гэта ўзмоцніць ціск на валютны рынак і прывядзе да росту попыту на валюту. Зразумець можна і банкі – рублёвых рэсурсаў у краіне хапае. Аднак банкірам трэба памятаць, што і раскідвацца народнымі грашамі нельга – забраўшы сёння свае ўклады і абмяняўшы іх на валюту, грамадзяне заўтра ўжо не прынясуць іх назад – спатрэбіцца час. І прыцягваць грошы прыйдзецца ўжо дарагой цаной – пад высокія працэнты.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

